PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ" 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 7 (1813) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 17 ЛЮТАГА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)



Размовы ў Мінску, 26 студзеня 1991. Савецкі бок прадстаўлялі: Л. Каравайка, Л. Сухнат, М. Трухан, В. Скварцоў, Л. Баршчэўскі, В. Асіпенка. Фота Я. Максімюка.

## БЕЛАРУСКА-БЕЛАРУСКІЯ РАЗМОВЫ

26 студзеня ў Мінску прайшлі размовы паміж прадстаўнікамі беларускіх арганізацый Беласточчыны і дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР, прадстаўнікамі Міністэрства народнай адукацыі, Фонду беларускай культуры, Мінскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы і Мінскага бацькоўскага камітэта аб супрацоўніцтве ў галінах культуры і адукацыі. Беласточчыну прадстаўлялі Аляксандр Баршчэўскі, Мікалай Бушко, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч, Віктар Стахвюк, Сакрат Яновіч.

У галіне асветы абмяркоўвалася справа шырэйшага набору выпускнікоў сярэдніх школ Беласточчыны ў вышэйшыя на-

(Працяг на стар. 2)

## ПРАВЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ

### (КАПЕНГАГЕНСКІ ДАКУМЕНТ)

*Пад канец чэрвеня 1990 г. у Капенгагене праходзіла спатканне 35 дзяржаваў-удзельніц Канферэнцыі па пытаннях бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе. 28 чэрвеня 1990 г. быў прыняты асноўны дакумент гэтага спатканняя, якое было прысвечанае правам чалавека. Ніжэй падаем у перакладзе на беларускую мову змест чацвёртай часткі гэтага дакумента, якая датычыць правоў нацыянальных меншасцяў. Якраз гэтая частка дакумента выклікала найбольшыя спрэчкі і разнагалоссе дзяржаў-удзельніц капенгагенскага спатканняя. З'яўляецца яна вынікам далёка ідучага кампрамісу, тым не менш варта пазнаёміцца з ёю, бо яна датычыць і нашага — беларускага — лёсу ў Польшчы.*

IV

**30.** Дзяржавы-удзельніцы прызнаюць, што пытанні, якія датычацца нацыянальных меншасцяў, могуць быць вырашаны толькі ў дэмакратычнай дзяржаве, у якой улада абапіраецца на прававую аснову і суды дзейнічаюць незалежна. Дэмакратычна арганізаваная дзяржава забяспечвае поўнае пашанаванне правоў чалавека, роўныя правы для ўсіх грамадзян, палітычны плюралізм, грамадскую талерантнасць і ўвядзенне такіх прынцыпаў, якія не дазваляюць ураду злоўжываць уладай.

Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць важную ролю пазаўрадавым арганізацыям, уключна з палітычнымі партыямі, прафсаюзамі, арганізацыямі ў абарону правоў чалавека і рэлігійнымі групамі, у пашырэнні талерантнасці, культурнай разнароднасці і ў вырашэнні праблем нацыянальных меншасцяў.

Пацвярджаюць далей, што пашанаванне правоў нацыянальных меншасцяў як часткі агульна прызнаных правоў чалавека з'яўляецца важным фактарам у дасягненні міру, справядлівасці, стабільнасці і дэмакратыі.

**31.** Асобы, якія належаць да нацыянальных меншасцяў, карыстаюцца поўнасцю асноўных правоў без якой-колечы дыскрымінацыі і з'яўляюцца роўнымі перад законам.

Дзяржавы-ўдзельніцы прымуць, калі ўзнікне такая неабходнасць, спецыяльныя меры дзеля забеспячэння асобам з нацыянальных меншасцяў поўнай роўнасці з іншымі грамадзянамі.

**32.** Прыналежнасць да нацыянальнай меншасці з'яўляецца справай індывідуальнага выбару і з гэтай прычыны не можа ўзнікнуць аніякая нявыгада.

Асобы, якія належаць да нацыянальных меншасцяў, маюць права свабодна выяўляць, захоўваць і развіваць сваю этнічную, культурную, моўную і рэлігійную тоеснасць ды захоўваць і развіваць сваю культуру ва ўсіх яе аспектах без аніякага прымусу асіміляцыі. У асобнасці маюць права:

**32.1.** — карыстацца сваёй роднай мовай прыватна і публічна;

**32.2.** — заснаўваць і захоўваць свае ўласныя культурныя і рэлігійныя ўстановы, арганізацыі і таварыствы, якім дазволена карыстацца дабравольнай фінансавай і іншай дапамогай у сузгоднасці з краёвым заканадаўствам;

**32.3.** — вызнаваць сваю рэлігію і выконваць яе абрады, набываць і захоўваць рэлігійныя матэрыялы ды весці навучанне рэлігіі на сваёй роднай мове;

**32.4.** — устанаўліваць і падтрымліваць кантакты між сабою ў краіне і з грамадзянамі іншых дзяржаваў, з якімі звязваюць іх супольнае этнічнае або нацыянальнае паходжанне, культурная спадчына або веравызнанне;

**32.5.** — распаўсюджваць інфармацыю на роднай мове ды мецьда яе доступ і магчымасць абмену;

**32.6.** — заснаўваць і ўтрымліваць арганізацыі і таварыствы ў краіне ды ўдзельнічаць у міжнародных пазаўрадавых арганізацыях. Асобы, якія належаць да нацыянальных меншасцяў, могуць ажыццяўляць свае правы індывідуальна або як члены групаў.

**33.** Дзяржавы-удзельніцы будуць ахоўваць этнічную, культурную, моўную і рэлігійную тоеснасць нацыянальных меншасцяў і ствараць умовы дзеля падтрымання гэтай тоеснасці. Прымуць неабходныя меры дзеля гэтага, прыкладам, наладжваючы кантакты з меншаснымі арганізацыямі або таварыствамі.

**34.** Дзяржавы-удзельніцы прыкладуць намаганні, каб забяспечыць асобам з нацыянальных меншасцяў, незалежна ад неабходнага навучання афіцыйнай мовы данай дзяржавы, магчымасць навучання іхняй роднай мовы і выкарыстання яе ў размовах у дзяржаўных установах у сузгоднасці з заканадаўствам данай краіны.

У навучанні гісторыі і культуры возьмуць пад увагу гісторыю і культуру нацыянальных меншасцяў.

**35.** Дзяржавы-удзельніцы будуць выконваць правы асобаў з нацыянальных меншасцяў адносна іхняга ўдзелу ў публічных справах, між іншым, у дзейнасці дзеля аховы і мацавання тоеснасці гэтых меншасцяў.

(Працяг на стар. 6)



— 26 —

Трэцяя спроба (аб дзвюх першых пісаў я ўжо ў папярэднім нумары) уцягнуць дзеячоў БГКТ у „калектыўнае асуджэнне“, была звязана з асобай С. Яновіча.

Партыйныя і міністэрскія ўлады інспіравалі беларускіх дзеячоў да „супольных“, „групавых“ выступленняў, накіраваных супраць Яновіча за яго контррэвалюцыйныя погляды. Ніякіх калектыўных рэзалюцый, пастаноў ці заяў не ўдалося аднак арганізаваць. Нягледзячы на гэта, улады што хацелі, тое зрабілі. Яновіча выкінулі з партыі і, наколькі не памыляюся, з работы. Не будзем аб гэтым шырэй гаварыць, тым болей, што Яновіч паказаў гэту праблему і ў сваёй творчасці і ў сваіх выступленнях.

Чацверты выпадак быў звязаны з маёй асобай. Болей чым дваццаць гадоў таму назад на вялікім сходзе настаўнікаў у ГП БГКТ я ў сваім выступленні сказаў: „Нашы патрабаванні ў адрас польскай дзяржавы правільныя, аднак мы павінны памятаць аб тым, што тады, калі палякі для нас зрабілі нямала, нашы беларускі народ нічога не даў палякам, якія жывуць у Беларусі“. На сходзе прысутнічаў прадстаўнік міністэрства ўнутраных спраў. На жаль, не памятаю яго прозвішча, хаця добра памятаю яго выгляд. Пасля сказанага мною зараз жа быў аб'яўлены перапынак. Мяне абыходзілі, як заражанага чумою. Прадстаўнік міністэрства, зачыніўшыся ў пакойчыку старшыні ГП БГКТ, горача намаўляў, каб нехта даў адпор Баршчэўскаму. Выбегшы з гэтага пакойчыка актывіст з Бельска-Падляшскага, вядомы ўжо łają udzielić zdecydowanej odpowiedzi tym, kto wypowiada nieprzemyślane, szkodliwe poglądy“.

Пасля сходу я ўсё ж такі ўвайшоў у пакойчык, у якім сядзеў прадстаўнік МУС, бо вісела там маё паліто. Прадстаўнік міністэрства дэманстрацыйна ўстаў і выйшаў, штатныя дзеячы ГП БГКТ пабеглі за ім. Усе вярнуліся ў пакойчык, калі я ўжо з яго выйшаў. Прадстаўнік, пакідаючы ГП БГКТ, заявіў: „Więcej on do BSRR nie pojedzie!“ Намнога пазней даведаўся я, што калі прадстаўнік міністэрства прадставіў у сваёй установе маё „злачынства“, адзін з начальнікаў сказаў: „A cóż on

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

нам Ікс, бегаў і ўсім шаптаў злавесным шэптам: „Як ён мог сказаць такое?! Хто яму падказаў гэта?! Ён хоча пасварыць нашу краіну з БССР!“

Пасля перапынку ніхто з беларусаў, у тым ліку і Ікс, супроць мяне не выступіў. Затое выступіў прадстаўнік міністэрства і сказаў: „Jestem przekonany, iż zdrowe siły w BTSK zdołego powiedział? Czyż nie ma prawa wypowiedzieć słowa prawdy o swoim narodzie?“. Нягледзячы на гэта, беластоцкі аддзел унутраных спраў стараўся мабілізаваць групу дзеячоў, якія асудзілі б публічна мяне. Праходзілі месяцы і ніхто мяне не асуджаў. Пасля справа прысохла і, мабыць, памятае аб ёй, апрача мяне, ўсяго некалькі асоб.

Аднак, для мяне справа сталася яснай. Сярод дзеячоў БГКТ няма большай колькасці асоб, якія хацелі б стацца інструментам антыбеларускай ігры. Беларусы не схацелі дэмаскаваць беларусаў з прычыны іх палітычных ці нацыянальных поглядаў.

Прайшлі гады, адыйшла беспаваротна ў мінулае былая сістэма. Здавалася б, што якраз сёння ўсе беларусы зразумеюць, што ў ідэалагічным плюралізме гарантыя росквіту беларускай дэмакратыі.

І раптам гром з яснага неба. Беларусы, якія гуртуюцца ў палітычнай групе, мабыць, без інспірацыі Куцаў і Каральчукоў, пішуць у высокія варшаўскія ўстановы лісты, у якіх даюць такія палітычныя характарыстыкі дзеячам БГКТ, якімі павінны захапіцца ворагі беларушчыны, захапіцца і зрабіць парадак з БГКТ. Новая страшэнная з'ява, якая сведчыць, што субстанцыю беларускага руху ў Польшчы заатакаваў рак. Ну што ж, дух пакойнага Куца выходзіць з магілы і танцуе трыумфальны танец. Тое, што не ўдалося яму зрабіць пры жыцці, удалося пасля смерці.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Лех Валэнса ў папы.** У Ватыкане папа Ян Павел II прыняў прэзідэнта Леха Валэнсу. Была гэта ўжо іх шостая сустрэча, але першая сустрэча Валэнсы як прэзідэнта Рэчыпаспалітай Польскай. Быў гэта таксама — як сказаў папа — „першы візіт у папы прэзідэнта-паляка ад часу атрымання нашай краінай незалежнасці ў 1918 годзе“.

**У рэферэндуме ў справе незалежнасці Літвы** прыняло ўдзел 84,43 прац. жыхароў, у якіх было права на галасаванне. 90,47 прац. удзельнікаў рэферэндума выказалася за незалежную Літву. Разам з грамадзянамі Літвы за незалежнасць выказаліся таксама літоўцы, якія пражываюць у ваколіцах Сейнаў і Пунска. Што датычыцца польскага насельніцтва, пражываючага ў Літве, дык толькі 24 прац. яго ўзяло ўдзел у рэферэндуме (за незалежнасць выказалася палова галасуючых).

**Калона аўтамашын з харчовай і медыцынскай дапамогай пераехала ўжо з Нямеччыны ў Савецкі Саюз.** Узброеныя сілы Нямеччыны перадалі з запасаў былой арміі ГДР звыш 200 машын, загружаных харчамі і лякарствамі, у дары для Рускай праваслаўнай царквы. Гэты транспарт даўжэйшы час стаяў на польска-нямецкай граніцы. Польскае міністэрства замежных спраў, беручы пад увагу гуманітарны бок справы, рашыла звольніць калону ад абавязку мець дазвол на міжнародны дарожны транспарт. Такі дазвол быў выдадзены польскімі ўладамі бясплатна.

**Бронхафібераскоп** — гэта чарговая медыцынская апаратура, падораная папам Янам Паўлам II, якая тым разам трапіла ў туберкулёзную бальніцу ў Беластоку. Гэтая каштоўная прылада (вартая 15 тысяч долараў) нямецкай фірмы „Шторк“ будзе абслугоўваць хворых з Беластоцкага і Ломжынскага ваяводстваў.

**Табачная афера,** якая была выяўлена ў канцы студзеня, мае дачыненне з гранічным пунктам у Кузніцы-Беластоцкай. У сувязі з аферай было арыштавана пяць таможнікаў, якія ўзялі 21 тысячу долараў хабару. Паліцыя вядзе росшук чатырох дырэктараў фірмы „Пол-кан“ з Варшавы, якая гандлявала папяросамі „Марлбора“ і бышцам іх вывозіла ў Савецкі Саюз. У выніку падатковых махлярстваў казна страціла некалькі дзесяткаў мільярдаў злотых.

**9757 чалавек у Беластоку карысталася грашовай дапамогай** для аплачвання арэнды за кватэры. Прашэнні аб дапамозе прымае ваяводская ўстанова грамадскай дапамогі.

**У Каралёвым Мосце** (гміна Гарадок) **згарэла праваслаўная плябанія** (шырэй аб гэтым пішам у наступным нумары). Раней у гэтай мясцовасці была абакрадзена царква.

**„Вузлянка“** — мастацкі калектыў з вёскі Вузла Мядзельскага раёна Мінскай вобласці прабываў на Беласточчыне. Беларускія спевакі выступілі гасцінна на раённым аглядзе „Беларуская песня '91“ у Беластоку і канцэртавалі ў Рыбалах.

### ЛІТАРАТУРНАЯ СУСТРЭЧА

Управа Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ паведамляе, што 24 лютага (нядзеля), у 11 гадзін у памяшканні Аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку, вул. Кілінскага 6, адбудзецца сустрэча з паэтэсай **Зосяй Сачко** з нагоды выхаду з друку яе новага зборніка. Сардэчна запрашаем.

**Управа „Белавежы“**

## БЕЛАРУСКА-БЕЛАРУСКІЯ РАЗМОВЫ

**(Працяг са стар. 1)**

вучальныя ўстановы Беларускай рэспублікі (прапанавана была лічба 60 выпускнікоў з адначасным пабольшаннем колькасці навучальных установаў і пашырэннем профіляў навучання) ды дапамога ў абсталяванні кабінетаў навучання беларускай мовы на Беласточчыне метадычнымі дапаможнікамі (перад усім меліся на ўвазе стужкі з запісамі беларускамоўных спектакляў па радыё і фільмаў па тэлебачанні). Разважалася справа шырэйшага, чымсці дагэтуль, выезду беларускіх дзяцей на адпачынак летам.

Размова закранала таксама справу парытэтнага абмену вакальна-інструментальнымі і харавымі калектывамі паміж Беласточчынай і Беларуссю і шырэйшага, чымсці ў мінулым годзе, падключэння Беларусі ў арганізацыю Фестывалю беларускай песні ў Беластоку. Разважаліся магчымасці дапамогі беларускіх спецыялістаў і мастакоў у абсталяванні інтэр'ераў Беларускага музея ў Гайнаўцы і Цэнтра беларускай культуры (планаванага) у Беластоку. Мікалай Бушко, кіраўнік Фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы прапанаваў савецкаму беларускаму боку ўдзел (звязаны з пэўнымі фінансавымі накладамі) беларускіх хораў ды выкарыстанне фестывальнай нагоды дзеля шырэйшай прамоцыі беларускай культуры ў Польшчы. Ян Максімюк звяртаў увагу на неабходнасць выдавецкай апекі Мінска над беларускім літаратурным рухам у Польшчы.

Прапанаваныя накірункі супрацоўніцтва ў галінах культуры і асветы былі ўспрыняты з прыхільнасцю савецкім бокам.

**(ям)**

## ПАДЗЯКА

**Нашай вернай чытачцы спадарыні НАДЗІ БАРТ з горада Заўльгаў у Нямеччыне выказваем шчырую падзяку за прысланыя нашай рэдакцыі 100 марак — выкарыстаем іх на тэхнічнае аснашчэнне нашай журналісцкай працы.**

**Сардэчна дзякуем таксама за Вашы цёплыя словы ў наш адрас. Пастараемся і надалей быць міралюбівымі, людзей гадзіць, а не сварыць, і дбаць, як і раней, пра тое, каб не загінуў у народзе беларускі дух. Жыве Беларусь!**

### ЗАПРАШАЕМ НА АГЛЯД!

**Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку запрашае ўсіх сімпатыкаў беларускай песні на цэнтральны агляд „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '91“, які будзе праводзіцца на працягу двух дзён у Беластоцкай філармоніі:**

**— 16 лютага, а гадз. $10^{00}$ — пачнецца конкурсны агляд салістаў і калектываў з Беласточчыны,**

**— 17 лютага, а гадз. $14^{00}$ і $17^{00}$ адбудуцца два канцэрты лаўрэатаў, у якіх выступіць госць — калектыў „Церніца“ з Мінска.**

**Білеты можна купіць у ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11 у гадз. 8—15, тэл. 435-118.**

# БЕРАГІ НЕСПАКОЮ

*Вярнуцца туды*
*пакуль вены яшчэ не парваліся*
*пакуль у кроплі жыцця*
*не ўсміхнецца смерць*
(з верша Надзеі Артымовіч)

На літаратурную сустрэчу з Надзеяй Артымовіч, якая адбылася 27 студзеня 1991 года ў беластоцкім аддзеле Саюза польскіх пісьменнікаў, я ішоў з мешанымі спадзяваннямі. Напярэдадні гэтай сустрэчы, 26 студзеня, група грамадскіх дзеячоў, літаратараў, палітыкаў ды наогул аніматараў нашага беластоцкага жыцця выехала ў Мінск. Усякі маладзёжны элемент 27 студзеня адцягнула ў Бельск-Падляшскі, бо там адбывалася дужа важная ў гісторыі БАСа падзея — жаніўся мой сябрук са школьнай лаўкі Міхола Ваўранюк (найлепшыя мае пажаданні). Нягледзячы, аднак, на ўсе гэтыя неспрыяльныя акалічнасці, на сустрэчу з'явілася група людзей не меншая за тую, якая сабралася пры нагодзе літаратурнага спаткання з Янам Чыквінам. Факт гэты перакнаў мяне і ўпэўніў, што зацікаўленасць імпрэзамі падобнага характару вызначаецца не персанальным складам удзельнікаў, але, хутчэй за ўсё, з'яўляецца яна пэўнай, прызнаюся тут, няўцямнай мне канстантай.

Сустрэчу адчыніў старшыня Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" Ян Чыквін. Формула сустрэчы ясная і тая ж, што заўсёды. Размаўляем пра літаратуру. Ніхто нікога не абмяжоўвае ў выказваннях. Трэба ўсяго трымацца пэўных рамак і не адцягваць дыскусіі на перыферыю. Ва ўводным слове Ян Чыквін паінфармаваў яшчэ пра падобныя сустрэчы ў будучым. І так, у плане сустрэчы з паэтамі-„белавежцамі", зборнікі якіх маюць паяўляцца ў серыі *Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа"* (пад агульнай рэдакцыяй Яна Чыквіна). Першай кніжачкай у гэтай серыі з'яўляецца зборнічак паэзіі Надзеі Артымовіч „Сезон у белых пейзажах". Акрамя сустрэч з „белавежцамі", арганізатары задумалі запрашаць літаратараў з Беларускай рэспублікі. Літаратурныя сустрэчы маюць адбывацца рэгулярна. Мне стала ясна, што прынамсі літаратурнае жыццё ў Беластоцкім краі мала-памалу дасягае нармальнасці. Нармальнасць гэтая ўзмацняецца фактам, што знайшоўся ўжо да-

**(Працяг на стар. 4)**



*Надзея Артымовіч падпісвае кніжачку паэзіі „Сезон у белых пейзажах".*

# БЕЛАРУСЬ — ДРАМАТЫЧНАЕ АБУДЖЭННЕ

Так называўся сімпозіум Аб'яднання еўрапейскай культуры, які адбыўся 16 студзеня 1991 г. у варшаўскім Доме літаратуры.

Уступнае слова ўзяў **Сакрат Яновіч.** Гаварыў ён аб гісторыі Беларусі, уплыве падзеяў на псіхіку народа, значэнні беларускай культуры ў мінулым і сёння, м. ін. і для польскай культуры. Узняў таксама справу біялагічнага вынішчэння і дэнацыяналізацыі беларусаў, адраджэнскага руху і ўдзелу ў ім пісьменнікаў, пракаментаваў факт абвяшчэння суверэнітэту Беларусі, характар і значэнне Беларускага народнага фронту „Адраджэнне". На заканчэнне пазнаёміў прысутных з ідэяй балта-чарнаморскай федэрацыі як шанцам на здабыццё супольнымі сіламі незалежнасці народаў Прыбалтыкі, Беларусі і Украіны.

**Тадэуш Канвіцкі** падкрэсліў бесканфліктнасць беларусаў у адносінах да Польшчы, ахарактарызаваў значэнне беларускай культуры, яе агонію, а пасля паступовае адраджэнне — абумоўленыя гістарычнымі падзеямі і стратай незалежнасці. Асаблівы націск палажыў на ўзаемныя польска-беларускія культурныя ўплывы і літаратурныя сувязі. Закрануў праблему праваслаўя і каталіцызму на Беларусі, ды звярнуў увагу на неабходнасць іх садзейнічання ў адраджэнні і развіцці беларускай культуры.

**Эўгеніюш Кабац** паінфармаваў аб зацікаўленні беларускай праблематыкай на міжнародных канферэнцыях (Парыж, Рым). У сваіх разважаннях правёў аналіз быццам двух поглядаў, якія хаця ўзаемна выключаюцца, але існуюць у свядомасці палякаў. Палякі быццам прызнаюць суверэнітэт беларускай культуры, узаемныя сувязі і супольныя карэнні з польскай культурай, пацвярджаюць права на незалежнасць Беларусі, а з другога боку, аднак, частка Беларусі явіцца ім як усходнія крэсы польскай дзяржавы з іх „крэсавай культурай".

У сэнсоўнай дыскусіі ўдзельнікі спаткання закранулі галоўным чынам праблемы біялагічнага і культурнага знішчэння беларускага народа, прызнання беларусаў як народа, прыхільнасць беларускага насельніцтва да польскіх спраў на Беларусі, значэнне праваслаўя, каталіцызму і ўніяцтва для Беларусі, адмоўныя адносіны да беларускай меншасці на Беласточчыне і т.д.

**Д-р Збігнеў Вежбіцкі** пры нагодзе паведаміў удзельнікам сімпозіума, што 28 лютага 1991 г. у 17 гадзін будзе створана Польска-беларускае таварыства ў Варшаве (сход адбудзецца на вул. Гурнашлёнская 20).

✲

Ад Сакрата Яновіча я даведаўся, што 18 студзеня 1991 г. выступаў ён у Варшаўскім універсітэце, на тэму: „Праблемы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы". Звярнуў ён увагу слухачоў, што для беларускай меншасці ў Польшчы, на яе этнічнай тэрыторыі важны перад усім маральна-палітычны статус. Ёй неабходна мець сваё прадстаўніцтва ў парламенце і свой самаўрад, ды магчымасці развіцця культуры і школьніцтва.

Кіраўніцтва Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Польшчы, свядомае залежнасці развіцця культуры ад ступені эканамічнага дабрабыту, асноўным заданнем лічыць зберагчы беларускія этнічныя абшары Падляшша і Беласточчыны ад існуючай пагрозы эканамічнага заняпаду, што з'яўляецца прычынай міграцыі людзей у гара-

**(Працяг на стар. 5)**




### АПАКАЛІПСІС

Як прастытутка ад дзіцяці
Альбо як сын ад хворай маці, —
Мы адракліся роднай мовы.

Як Пётр адрокся ад Ісуса, —
Так адракліся ў Беларусі
Мы Беларусі.

Саміх сябе мы адракліся
І ўжо сабою быць баймся, —
Ратуй нас, Божа!

За гэты грэх на гэтым свеце
Нас адракуцца нашы дзеці
І нашы ўнукі.

На іх, адных, мая надзея,
Што Беларусь не анямее
У Беларусі.

**Леанід Пранчак**

* ✲ *

Як не хапае слоў!
Нямы, зусім нямы...
Каханне і любоў —
Сінонімы?

Як зразумець сябе?
І як загаварыць?
Ці ёсць сэнс у сяўбе,
Калі ралля гарыць?

І як, скажыце, жыць?
І хто пачуе крык:
О Божа, як баліць
Мой вырваны язык!..

**Ігар Сідарук**

### БЕЛАРУСЬ

Край мой мілы,
Край любімы,
Беларусь мая!
У лясы твае,
Даліны
Закахаўся я.

Як я гляну
На палеткі,
Сэрца птушкаю пяе,
Поплаў росны
Ды мядзяны
Да сябе мяне заве.

Дык квітней жа
Мая маці,
Беларусь мая!
Як сястрыцаю
Табою
Ганаруся я.

Тут і сэрца
Лёгка б'ецца,
Думкі марамі плывуць.
А сцяжынка-стужка
Ўецца,
Далі родныя завуць.
Ах ты, родная
Старонка!
Ах ты, мілы край бацькоў,
Табе думкі,
І жаданні,
Ды сыноўняя любоў

**А. Барэйка**




## БЕЛАСТОЦКАЯ ПРЫСЯГА ЦІ ГРЫЗНЯ?

Мо б мы і ўзялі наш лёс у свае рукі, як заклікае Сакрат Яновіч у 2 (1808) нумары „Нівы“, але яшчэ доўга гэтага не зробім, калі будзем так паводзіць сябе, як цяпер. Прынамсі маё пакаленне гэтага не дачакае. Бо каб узяць наш лёс у свае рукі, трэба, каб тыя рукі выраслалі з аднаго пня, нібы рукі-галіны, якія з магутнага дуба вырастаюць.

Тым часам, нашы рукі-галіны вырастаюць з розных дрэваў, дрэўцаў і кустоў і стыхійна, вельмі нясмела працягваюцца да сонца, каб нагрэцца і выраставацца ад вечнага прыгнёту.

Вырастаюць з кволенькіх ствалоў, якія жывуць між сабою ўсяго толькі ў сімбіёзе; вырастаюць з адной зямлі і кормяцца ёю, але кожны сабе.

Наш народ добры, працавіты і гаспадарны, але разгублены. Каб яго як мага больш згуртаваць пад нашым сцягам, трэба яму навочна паказаць: хто мы такія ў польскай дзяржаве, чаго хочам, куды імкнемся і якая ў нас праграма. Паказваць народу ягоныя правы і абавязкі як нацыянальнай меншасці.

Тым часам тыя, што найбольш крычаць аб адзінстве беларусаў у Польшчы, самі не ведаюць, на якой глебе стаяць і чаго па сутнасці хочуць. Тым больш цяпер, калі ў Польшчы паявілася многа розных палітычных плыняў. Не ведаючь некаторыя з нас, за каго ўчапіцца, каму падлізацца.

Я пераканаўся, што нам вельмі далёка да маналіту, які характэрны іншым нацыям. Пры гэтым неабходна сказаць, што многія з нас ваюць хлуснёй, а калі хто паспрабуе сказаць сваю праўду — вораг. Іменна ў імя адзінства і кампрамісу для адзінства, я сёння не назву ваюючых ілгуноў. Але калі ўбачу, што хлусня не спыняецца, а наадварот, пашыраецца, каб абматаць народ дзеля дасягнення імі карысці — не замаўчу. Бо кожнаму з нас павінна балець душа за сваю нацыю і за ўсё тое, што з ёю звязана, а не чакаць міласці з чыіхсьці рук. Жыве Беларусь!

**Васіль Петручук**

## НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ

Я — вучаніца чацвёртага класа Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. У маёй школе „Ніва“ на першым месцы сярод іншых газет. Мы ў класе рэгулярна атрымоўваем яе і адзін урок амаль кожны тыдзень прысвячаем яе прачытанню. Усе сяброўкі проста захоплены „Нівай“, таму што можна ў ёй знайсці многа вельмі цікавых матэ-

**(Працяг на стар. 5)**

**ФОТАВІТРЫНА**



*Прыдарожны крыж на вул. Варшаўскай у Гайнаўцы. Фота Уладзіслава Завадскага.*

## З МІНУЛАГА

## СМАК ХЛЕБА

Прыйшоў Іван у краму хлеба купіць. Купіў паўбуханкі і ўжо збіраўся адыйсці ад прылаўка, калі ўбачыў Ігната. Ігнат стаяў і глядзеў на полкі.

— Ты чаго чакаеш? — спытаў Іван.

— Хлеба, — адказаў Ігнат.

— Ты што зусім ужо аслеп? То ж хлеб ёсць.

— Гэта ўчарашні, а я хачу сённяшняга.

Іван нічога больш не сказаў і выйшаў з крамы.

Вось як гэта ёсць. Якія бываюць людзі, — думаў ідучы дадому. Калі б ты, чалавеча, быў з багатай сям'і, то можна было б па-рознаму думаць, а так? Які калісь хлеб елі! Што гэта быў за хлеб? Мука была толькі для клею, каб хлеб не разляцеўся...

Пяклі хлеб з жалудоў. Збіралі жалуды і сушылі, а пасля таўклі ў ступе. Калі адляцела луска, малолі жалуды ў жорнах. Да гэтай жалудовай мукі дадавалі трохі жытняй. І такі быў гэты хлеб... У той дзень, што яго спяклі, колер хлеба быў звычайны, а на другі — сіне. Што ж, ён быў як драўляны. Ад такога хлеба толькі страўнік балеў. Жалудовы хлеб таксама ашчаджалі. Нельга было наесціся яго колькі захацеў, бо не было замнога ні жалудоў, ні жытняй мукі! Хлеб пяклі яшчэ і з чорнай рэдзькі, быў ён гаркаваты. Рэдзьку церлі на цёрцы, размешвалі з мукой. Хлеб пяклі і з бручкі, і з бульбы... З рэдзькі і бручкі хлеб быў заўсёды мяккі. З жытняй мукі хлеб пяклі толькі на Каляды і Вялікдзень.

Так карміліся амаль усе сем'і. Толькі ў многазямельных хлеба хапала. У іншых — голад ды холад...

Падчас фашысцкай акупацыі быў загад аддаць жорны. Хлеб таксама выдзялялі. Давалі квіток, каб кожны селянін мог змалоць збожжа толькі ў Нараўцы, столькі колькі трэба было для цэлай сям'і на месяц, паводле акупантаў. Калі з'ясі яго раней, то каб ты спух ад плачу, ніхто табе больш малоць не будзе.

— У нас, — успамінае Іван, — былі запасныя жорны. Жыта таксама трэба было хаваць. Жыта і жорны схавалі мы ў хляве пад конскім гноем. Малолі дома. Жорны і жыта прынасілі дадому, і адзін малоў, а другі стаяў і пільнаваў, каб хоць немцы не прыйшлі.

Хлеб меў запах гною, але яго елі, па кусочку. Такі быў смак хлеба...

**Аўрора**




**(Працяг са стар. 3)**

следчык творчасці „белавежцаў“ — з памкненнямі на напісанне кніжкі — доктар Тэрэса Занеўская.

Чыста літаратурны бок сустрэчы з Надзеяй Артымовіч шмат у чым не задаволіў мяне. Сама паэтэса нейк адмоўна паставілася як да ідэі сустрэчы, так і да сваёй творчасці. Я адчуў, што паэтэса была нават троху збянтэжаная фактам выхаду ў свет кніжачкі яе паэзіі „Сезон у белых пейзажах“ — спадзявалася, што перадаўшы рэдактару машынапіс сваіх вершаў, матэрыял гэты заляжыцца нейкія два гады. А тут, вось табе і на! Надрукавалі. Што ж, паўтараю, набліжаемся да нармальнасці. Літаратары пагутарылі ў часе сустрэчы пра арганізацыйныя справы свайго Аб'яднання, а я нарабіў здымкаў. Не намерваюся выліваць тут жалі, што паэтэса, так сказаць, не адчынілася перад публікай. Відаць, гэта ўжо ў ейнай натуры. Мушу, аднак, успомніць, што дахаты я вярнуўся з чатырма экземплярамі „Сезона ў белых пейзажах“ у кішэні. І тут, у самотнасці і цішы, гарбеючы над кніжачкай да позняй ночы, мая сустрэча з паэзіяй Надзеі Артымовіч працягвалася.

Не займаюся асабіста ні пісаннем вершаў, ні літаратурным доследам. З'яўляюся ўсяго звычайным спажыўцом тавару, які завецца кніжкай. Не замахваюся тут ані на рэцэнзію, ані на аналіз. Рэцэнзіі і гэтаму падобнае — я пераканаваны — знойдуць болей дастойных за мяне аўтараў. Прапаную жменьку думак, якія не прагучалі на сустрэчы 27 студзеня. Спадзяюся адначасова, што да гэтага часу, калі мой тэкст пакажацца друкам, кніжачка „Сезон у белых пейзажах“ набудзе належную ёй вядомасць.

У зборніку выдзяляюцца тры семантычныя часткі. Межы між імі ўмоўныя, нябачныя. Першая частка мае выразна лірычны характар — паяўляюцца ў ёй абрыўкі ўспамінаў. Для прыкладу:

*вярнуцца хачу да нашай першай*
*размовы*
*расхінуць мокры плашч слоў*
*знайсці хачу трапяткое сляпое*
*маўчанне*

Альбо:

*ты пісаў што любіш захад сонца*
*ў пару лістападаў*
*і жоўтасць лісця што ёсць*
*зеленню ў пару паміранне дрэваў*

Абрыўкі лірычнага аповеду бязладна шыбуюць — плынь свядомасці. Абмежаваная, як здаецца, сценамі гарадской кватэры прастора гераіні вершаў нараджае адчужанасць і экзістэнцыянальны неспакой. Ва ўспрыманне вонкавага свету ўрываюцца нерэальныя вобразы і здані — аж да цэласнага заглыблення асобы гераіні ў зусім іншую рэчаіснасць, ці лепш: іншыя рэчаіснасці. Рэчаіснасці сюррэальныя, але жывыя і верагодныя, бо на ўзроўні перажыванняў узбуджанай неспакоем душы. Гэта частка другая. Не магу паўстрымацца, каб не прывесці двух кавалкаў:

*свет зачыніўся*
*адплывае неспакойнае неба*
*і закрываўленыя цягнікі*
*набліжаюцца да бязлюдных*
*гарадоў*

І другі:

*берагамі неспакою ўваходжу*
*ў бязвокі гушчар*
*на небе расплываецца пах*
*азёрнай пасцелі*
*поўнач кідае хараство на цяжкую*
*расу*

Калі ўчытаецеся ў радкі вершаў Надзеі Артымовіч, адчуеце, да якой ступені вытанчаная абалонка паміж светам, *„што ў пальцах тваіх як дотык“*, і светам, у якім *„поранак разліўся ў цёмныя трохножныя сталы“* і *„зара разгубілася на ўроку ўласнага згарання“*. Неабходна яшчэ дадаць, што паэтэса ў нічым не аблягчае гэты шлях, на які запускаецца чытач. Мова ейных вершаў герметычная, замкнёная. Замкнёнасць гэтая паслядоўна вытрыманая. Адчуванне

# НАШЫ КАРАНІ

## II. ПЕРШАЕ ТХНЕННЕ

Тыя звесткі пра хрысціянства, якія з берагоў Міжземнага мора прыносілі на нашыя землі купцы, воі, збеглыя ваеннапалонныя ды нявольнікі, былі ўсяго толькі кропелькамі, якія сочацца з крыніцы, каб разам з іншымі падобнымі з бегам часу ўтварыць ручаіны, рэчкі і магутныя рэкі. Упершыню значным струменем вучэнне Хрыстова стала разліваццa па славянскіх, а ў іх ліку і па нашых, землях ў часы панавання ў Рыме імператара, святога Канстанціна Вялікага (306-307 г.г.). Паводле знаку з неба ён сам асабіста вызнаў Адзінага Госпада Бога, прыняў хрышчэнне, пашыраў у сваёй дзяржаве веру Хрыстову і ўчыніў хрысціянства дзяржаўным веравызнаннем у Рымскай імперыі. Ён таксама заснаваў Канстанцінопаль — другі Рым.

Але нам неабходна вярнуцца да часу прабывання Ісуса Хрыста на зямлі. У тым часе са Скандынавіі на паўднёвае пабярэжжа Балтыкі пераплыла і пасялілася пры вусці Віслы частка ўсходнегерманскага племя готаў. Яны скарылі мясцовае насельніцтва, падужэлі і пачалі пасоўвацца на поўдзень. Ішлі ўздоўж Віслы, Нарвы, Ясельды, Прыпяці і Дняпра. Хутка ў іхнім уладанні апынулася ўсё паўночнае ўзбярэжжа Чорнага мора. Тут яны збудавалі магутную дзяржаву, аднак, захавалі жывыя сувязі са сваёй ранейшай айчынай і вялі бойкі гандаль паміж Прычарнамор'ем і Прыбалтыкай. Таму на пройдзеным імі шляху панаваў вялікі рух, а пра яго бяспеку і спраўнасць дбалі расстаўленыя ад Чорнага да Балтыйскага мораў спецыяльныя крэпасці са значнымі гарнізонамі. Адну з такіх гоцкіх крэпасцяў вучоныя-археолагі адкрылі на палях сённяшняй вёскі Цацэлі каля Сямяцічаў. Як паказвае аграмадны могільнік з пахаваннямі дзяцей, дарослых і старых; вояў, сялян і рамеснікаў; заможных і бядоты — гоцкая крэпасць каля Цацэляў была вялікая і моцная. Розныя знаходкі пры яе раскопках паказваюць, што шляхам і крэпасцю карысталіся не толькі готы, але таксама іхнія саюзнікі, у тым ліку і славяне.

Чаму ўспамінаем пра готаў? Таму што іхняя новая дзяржава на пабярэжжы Чорнага мора настолькі ўзмоцнілася, што пачала непакоіць і стала небяспечнай для Рымскай імперыі, і каля 323 года легіёны імператара Канстанціна Вялікага разграмілі готаў. З таго часу сярод гоцкага насельніцтва пачало пашырацца хрысціянства, паўсталі пераклады Свяшчэннага Пісання на гоцкую мову, узнікла гоцкая епархія, якую ўзначальваў епіскап Вульфіла. Па старым шляху моцную хвалю вучэння Хрыста прынеслі готы і на нашыя землі. Няма сумнення, што якраз у гоцкім паселішчы-крэпасці каля Цацэляў паўстала і доўгі час дзейнічала адна з першых, калі не самая першая, на Пабужжы хрысціянская абшчына. Яна была ўсходняга, грэцкага накірунку. Таму трэба вельмі ўважліва і беражліва адносіцца да археалагічных знаходак з-пад Цацэляў, бо сярод іх ёсць таксама рэчы, якімі карысталіся адны з першых хрысціян на Беласточчыне.

**Мікола Гайдук**

# БЕЛАРУСЬ...

**(Працяг са стар. 3)**

ды, а гэта абазначае стварэнне гаспадарчай пустыні на пакінутых землях і прысуд беларусам у Польшчы на дыяспару.

Адносіны палякаў заходняй і цэнтральнай часткі краіны да беларускай меншасці, у ацэнцы С. Яновіча, прыхільныя, у адрозненні ад палякаў на Беласточчыне. Закрануў ён таксама магчымасць палітычнай маніпуляцыі нацыянальнай меншасцю, як, напрыклад, у выпадку наступстваў няўдачы місіі міністра замежных спраў Кшыштофа Скубішэўскага на Беларусі (выступленне пасла К. Путры і інш).

Тактоўна і тактычна аднёсся С. Яновіч да пытання, чаму беларуская меншасць галасавала ў прэзідэнцкіх выбарах на У. Цімашэвіча, а пасля на С. Тымінскага, аддаючы на Л. Валэнсу толькі 1,5% галасоў. Сказаў ён, што так галасавалі ўсе меншасці ў Польшчы, а прычына вымагае даследавання.

Пра Беларусь штораз больш чуваць у свеце; перастала яна быць панцэнцам выключна геаграфічным.

**Янка Жамойцін**

паэтэсай вонкавага свету адлюстравана ва ўнутранай мове нерухомых вобразаў. Так. Нерухомыя вобразы. Тут, бадай, набліжаемся да сутнасці, а слова-ключ да паэзіі Надзеі Артымовіч узнікае непазбежна — гэта загалоўнае слова „пейзаж". Пейзажы чалавечай душы — найважны ў зборніку сродак паэтычнага аповеду. Пейзажамі душы выказана і адчужанасць, і роспач, ды ўсе нерэальныя рэчаіснасці, якія адгэтуль нарадзіліся. Падобнага вы не знойдзеце ў іншых „белавежцаў". Апошняе пытанне, якое можна паставіць паэтэсе: ці самота і неспакой гэта чалавечая мэта і завяршэнне? Тут усё ў парадку. Яна адказвае, што трэба вярнуцца ў асноўную рэчаіснасць — у свет найпершых чалавечых каштоўнасцяў:

*і з выбеленай фігуры*
*выбяжыць раптам чырвонае слова*
*як сэрца*
*як маці*
*як першы твой настаўнік*

Калі будзеце гартаць старонкі „Сезона ў белых пейзажах" Надзеі Артымовіч, абавязкова звярніце ўвагу на апошні верш. Ён нейк па-над агульнай канцэпцыяй зборніка. Ён — *ars poetica*.

*паэты паміраюць тады*
*калі ўсміхаецца добры час*
*для паперы*
*(...)*
*паэты паміраюць тады*
*калі нараджаюцца чорныя*
*лістапады —*

Ці ж не прыгожае? Ці ж не дасканалае?

**Аляксандр Максімюк**
Фота аўтара



*Пагляд на ўдзельнікаў сустрэчы з паэзіяй Надзеі Артымовіч.*



# АДГАЛОСКІ

**(Працяг са стар. 4)**

рыялаў аб жыцці беларусаў у Польшчы і за яе межамі. Наш настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі вельмі горача намаўляе ўсіх да чытання нашай беларускай газеты. Сяброўкі таксама любяць пачытаць пра жыццё іншых людзей, аб шчасці і нядолі моладзі, даведацца нешта пра гісторыю і пасмяяцца з цікавага гумару. Я вельмі часта чытаю „Ніву" і думаю, што было б добра, каб вы больш пісалі аб нашай Беласточчыне, аб яе традыцыях і людзях. Вы маглі б друкаваць больш такіх артыкулаў, як „Калядны вечар у Чыкага", які зрабіў на мяне вялікае ўражанне. Вы таксама навучаеце моладзь, як жыць. Гэтаму служыць куточак „Сардэчныя тайны", у якім вы апісваеце жыццё дзяўчат і хлопцаў. Мы з сяброўкамі вельмі любім гэта чытаць і задумоўвацца над лёсам людзей, якія ў многіх выпадках разгубленыя і пакрыўджаныя па сваёй віне. Мне таксама хацелася б, каб вы апісвалі жыццё простых людзей, старэйшых беларусаў, якія напэўна вельмі ахвотна падзяліліся б з намі сваім вопытам.

**Тамара Дзмітрук**

# ПАРНАСІК

*чытальніцкая апстэка на негарантаваных пядях*

**Дарагія сябры!**

*Я напісаў гэты верш таму, што я беларус, таксама таму, што я ведаю і пра такіх маладых людзей, якія не прызнаюцца, што яны беларусы. Яны, можа, баяцца?*

*Ці не будзе вам клопату надрукаваць гэты верш у „Ніве"?*

*Я пішу вершы ўжо год. Пішу пераважна на польскай мове, але таксама і па-беларуску. Я — вучань, як гэта кажуць, „беларускага ліцэя" ў Бельску.*

*Дзякую!*

**МЫ — У СЯБЕ!**

Які мы свет ствараем?
Што за сабою маем?
І што перад сабою?
Што пра сябе мы знаем?

Хоць мы маладыя,
Мы многа перажылі.
Што беларусы — добра знаем,
Але перад сабой добрай дарогі
не бачым.

Калі разам — у нас сіла!
А калі хто уцячэ, —
Дык няхай пропадам прападзе!

Тады не забывай:
Ты — беларус!
Ты — у сябе!

**Раман Ярмоцік**

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

## 7. „ПОЛАЦАК"

На днях нашу рэдакцыю наведаў Міраслаў Целушэцкі, які ўжо 4 гады жыве ў клііўлендскім „Полацку". „Ну, што там у вас?" — спыталася я нецярпліва. „Цяпер цішыня, спакой, — адказаў ён, — нікога з гасцей ужо няма".

Слухаю яго — і немагчыма мне ўявіць стан спакою таго мурашніка, у якім мне давялося пабываць у верасні мінулага года, калі адбывалася там сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі.

☼

У Кліўленд ехалі цэлую ноч. Збор быў у Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі). Там усе пакінулі свае самаходы ля царквы і рушылі познім вечарам двума аўтобусамі ў Кліўленд. Да раніцы больш 900 кіламетраў было ўжо за намі, і недзе каля 10 гадзіны мы ўехалі ў прыгарад Стронгвіл, дзе знаходзілася наша мэта — беларускі „Полацак".

На скрыжаванні за вокнамі мільганула цікавая — невысокая, але разложыстая — будыніна, як мне здалося, у нейкім арабскім стылі. „Дык гэта ж і ёсць наш новы Беларускі цэнтр!", — сказала Вера Бартуль. Каля будынка стаяла ўжо мноства самаходаў і відаць было шмат людзей. Але нас павезлі спачатку ў гатэль — з'езд у новай зале пачынаўся крыху пазней.

☼

Можа, калі б жылі сабе ціха і незаўважальна двое немаладых ужо людзей — Кастусь Калоша і Сяргей Карніловіч — ды займаліся сваёй працай, бізнесам, ніхто б занадта пра іх не пачуў ды не ўбачыў бы свету „Полацак". І яшчэ калі б усё тое, што яны там робяць, не было падпарадкавана адной — найвялікшай і найважнейшай справе — справе беларускай.

„Полацак" раскінуўся на больш чым 9 гектарах пагоркаў і нізін з лесам і вадою. Усё тут — уласнасць беларускай грамады.

Унізе, над азярцом, стаіць стары дом Кастуся і Сяргея, некалькі кватэр у ім яны наймаюць людзям. На партэры, дзе ёсць дзве вялікія залы і кухня, арганізуюцца кожную нядзелю пікнікі для беларусаў. Можна смажыць шашлыкі, можна палавіць рыбку ў ставе, а можна проста пасядзець, пагутарыць ці пайграць у більярд.

Наверсе, паблізу новага будынка Беларускага цэнтра, стаіць новы дом К. Калошы і С. Карніловіча. Ён заўсёды адкрыты (у поўным сэнсе гэтага слова, бо ніхто ніводных дзвярэй там не замыкае) для людзей. Шэсць немалых пакояў плюс прасторная кухня. Адзін з пакояў даслоўна нафаршыраваны апаратурай. Тут стаіць шапірограф і камп'ютэр для друкарскай справы. Проста на падлозе складзены розныя беларускікі, выдадзеныя на эміграцыі.

Дзверы гэтай нязвыклай хаты адчынены, аднак, у прамым і пераносным сэнсе. Кожны прыезджы беларус можа знайсці тут цяпло і прыстанішча. Былі тут і Алесь Барскі, і Янка Жамойцін і Сакрат Яновіч, і Пятро Скепка. І нават Люба Блізнюк, што спявала калісь у „Лявоніхе", прыехаўшы ў Кліўленд крыху падзарабіць, першыя месяцы тры жыла ў Калошы і Карніловіча.

У верасні 1990 года ў хаце аж кішыць. 23-гадовы пляменнік Сяргея, Славік Карніловіч, вось ужо паўгода сядзіць у дзядзькі. Прыехаў з Беларусі, але, мусіць, застанецца ў яго. Па-майстэрску водзіць машыну і вельмі дапамагае дзядзьку ў бізнесе, а таксама ў арганізаванні беларускай дзейнасці. Ходзіць на курс англійскай мовы. Прыехала таксама пляменніца Сяргея, сястрына дачка Марыя Баранковіч. Залаты чалавек наш дзядзька, гаворыць яны з дваюрадным братам Славікам у адзін голас. Затрымаўся тут на некалькі месяцаў і Мікола Бушко, дырэктар Гайнаўскага дома культуры, а таксама нашы „БАСаўцы" Бася Кучынская, Мірэк Пякарскі, Юрка Асеннік, ды дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Аляксандр Іванюк, а пяцёрка яго вучняў, хаця спіць у Мірка Целушэцкага (у старой хаце), то цэлы дзень праводзіць тут — найахвотней у вольныя хвіліны пры відэамагнітафоне. Таксама затрымаўся тут і Антон Мірановіч з Беластока. Калі хто хоча есці, ідзе на кухню і сам сабе бярэ ежу з халадзільніка, накладаючы яе на папяровую талерачку. Застаецца памыць толькі кубкі па каве...

У галаве Кастуся і Сяргея заўсёды клубіліся думкі, каб пашырыць „Полацак", зрабіць яго яшчэ больш прыдатным беларусам. Патрэбна была перш за ўсё зала для бізнесу, якая магла б быць не толькі дапаможнай у правядзенні беларускіх сустрэч, але і давала б даход. Два з паловай гады ваявалі за дазвол на будову. І калі толькі атрымалі яго, усё пайшло вельмі хутка. Дом ставілі каля 9 месяцаў — з маланкавай хуткасцю як на нашыя ўмовы. Свежанькі, пахнучы фарбай, яшчэ не зусім закончаны, прыняў ён 1 верасня 1990 года гасцей, што сабраліся, можна сказаць, з усяго свету на Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі. А ўжо 4 верасня, як толькі раз'ехалася большасць гасцей, прыйшлі майстры і нешта заканчвалі ў фае.

Зала выйшла імпануючая! Вя-



На новы будынак Беларускага цэнтра ўзнімаецца, побач з амерыканскім, беларускі сцяг.

# ПРАВЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ

**(Працяг са стар. 1)**

Дзяржавы-ўдзельніцы адзначаюць намаганні, прыкладзеныя дзеля справы мацавання этнічнай, культурнай, моўнай і рэлігійнай тоеснасці нацыянальных меншасцяў.

Адным са шляхоў дасягнення гэтай мэты з'яўляецца ўстанаўленне мясцовых або аўтанамічных адміністрацый, адпавядаючых спецыфічным абставінам і дзейнічаючых у сузгоднасці з дзяржаўнай палітыкай.

**36.** Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць асаблівую важнасць пашырэнню канструктыўнага супрацоўніцтва між сабою ў пытаннях адносна нацыянальных меншасцяў. Такое супрацоўніцтва служыць падтрымліванню узаемаразумення і даверу, сяброўскіх і добрасуседскіх адносін, міру, бяспекі і справядлівасці.

Кожная дзяржава-ўдзельніца будзе спрыяць клімату ўзаемнай пашаны, зразумення, супрацоўніцтва і салідарнасці паміж усімі людзьмі, што жывуць на яе тэрыторыі, і будзе заахвочваць да вырашэння праблем шляхам дыялогу на прававой аснове.

**37.** Аніводнае з гэтых абавязанняў не можа быць інтэрпрэтавана так, каб давала права дзеянняў, супярэчных мэтам і прынцыпам Хартыі ААН, абавязанням міжнароднага права і пастановам Канчатковага Акта, асабліва ў адносінах да прынцыпу тэрытарыяльнай недатыкальнасці дзяржавы.

**38.** Дзяржавы-ўдзельніцы ў сваіх намаганнях ахоўваць і ўмацоўваць правы людзей з нацыянальных меншасцяў будуць поўнасцю шанаваць мерапрыемствы, згодныя з існуючымі канвенцыямі правоў чалавека і іншымі міжнароднымі інструментамі, і разважаць, ці не далучыцца ім да адпаведных канвенцый, калі яшчэ гэтага не ўчынілі, у тым ліку і да такіх, якія забяспечваюць права ўносіць скаргі індывідуальнымі асобамі.

**39.** Дзяржавы-ўдзельніцы будуць супрацоўнічаць у кампетэнтных міжнародных арганізацыях, да якіх належаць (уключна з ААН і Радай Еўропы), маючы на ўвазе пытанні нацыянальных меншасцяў.

Разважаць скліканне сустрэчы экспертаў дзеля абмеркавання пытанняў нацыянальных меншасцяў.

**40.** Дзяржавы-ўдзельніцы аднадушна асуджаюць таталітарызм, расавую нянавісць, антысемітызм, ксенафобію, дыскрымінацыю і праследы на ідэалагічным і рэлігійным грунце. У гэтым кантэксце асабліва важнай прызнаюць праблему цыганоў.

Дэкларуюць інтэнцыю павысіць намаганні дзеля перамажэння гэтых з'яваў і пастанаўляюць:

**40.1.** — прыняць эфектыўныя меры, між іншым, прыняць у сузгоднасці са сваімі канстыту-

лізная, з „заплеччам“ — сучасназ кухняй з новым посудам, сталоўкай, барам. Можна наймаць спакойна залу на вяселле. Напэўна ахвотных не забракне!

Мастацкім афармленнем залы заняўся Янка Салавянюк з Гайнаўкі (цяпер малюе царкву ў Пітсбургу), а „драўлянымі“ справамі кіраваў Міраслаў Целушэцкі (Мікалай Бушко — столяр па першай прафесіі — яму ў гэтым дапамагаў).

А грошы? А грошы грамадскія. Вось падглядзелі, напрыклад, ва ўкраінцаў, як яны робяць варэнікі. Падумалі, што варта іх рабіць у зале пры царкве. У чацвер жанчыны іх робяць, у пятніцу — прадаюць: з бульбай, з сырам, з капустай (тры долары за 12 штук). У выніку жанчыны, што працавалі пры гэтым, ахвяравалі на будову залы 14 тысяч. „Цяпер смяіцеся з тых варэнікаў!“ — аптымістычна заканчвае свой расказ Сяргей.

Стаім на панадворку, ля дома Кастуся і Сяргея, гамонім. Ёсць тут Юрка Хадыка, намеснік старшыні БНФ, Галя Прыма, дырэктар беларускага дзіцячага садзіка ў Мінску, Маргарыта Шабуня-Пярова з Ленінграда, цётка Данчыка. Маем з Сяргеем Карніловічам ехаць у кліўлендскі Мастацкі музей (фізік Юрка Хадыка з яго вялікімі ведамі па гісторыі мастацтва мае быць нашым экскурсаводам). Пад'ехаў Васіль Радзюк (ён з маіх бакоў, з Віцебшчыны, а і тут блізка жыве — мінут 20-25 ехаць, кажа Сяргей), прывёз вялікіх памідораў. Страшэнна любіць агарод, зуважае Сяргей Карніловіч, кожны раз іх даглядае. Таму як даглядае, то і растуць. Васіль узяў да сябе на кватэру хлопца з Мінскага тэлебачання і дырэктара Віцебскага тэатра.

Сяргей раздае усім, хто ёсць, памідоры з мяшочка. А мы смакуем, хвалім.

Хаця скончыўся з'езд, па гаспадарах не відаць стомленасці. А столькі ж мітусіліся пры імпрэзах, закватараванні, забеспячэнні гасцей харчамі... Усё яшчэ пад'язджае то адзін, то другі самаход. У „Полацку“ збіраюцца людзі, бо ведаюць, што ў любы момант можна сустрэць тут кагосьці са сваіх. І не важна, што Сяргей заўсёды спяшаецца, усё трэба кудысьці ехаць. А ў аўторак і сераду — бізнес, бінго, хаця Сяргей ужо на пенсіі (працаваў у малочнай прамысловасці). Ат, дурніца гэта, кажа ён. Але ж вось, можа, дазволяць перавесці бінго ў новую залу. Во тады дык царкву ў „Полацку“ напэўна пабудуем! Толькі каб хаця кліентаў не забракла, усё ж такі далекавата ад цэнтра горада, непакоіцца Сяргей...

Пару дзён таму назад Мірэк Целушэцкі сказаў мне, што дазвол такі ўжо атрымалі.

Кастусь Калоша і Сяргей Карніловіч — як пульт кіравання. Звоняць муж і жонка — дактары з Гродна. Была нотка, кажуць, што ў Амерыцы будзе дапушчана да працы 600 тысяч медыцынскіх работнікаў з іншых краін. Яны б хацелі застацца і папрацаваць, але іх дзядзька не хоча. Памажыце!

А заўтра, 5 верасня, калі ўсе паедуць на вадаспад Ніягара, Сяргей накіруецца ў Пітсбург, у бальніцу, разам з Генадзем Грушавым, кіраўніком Камітэта „Дзеці Чарнобыля“ з Мінска. Трэба аформіць нейкую дапамогу ахвярам Чарнобыля. І гэтак далей, і таму падобна...

✲

Калі я чытала ў 1988 годзе рэпартажы Алеся Барскага аб яго паездцы ў ЗША і, між іншым, пра „Полацак“ і яго творцаў К. Калошу і С. Карніловіча, дык уяўляла сабе, што жывуць там два скромныя беларусы — адзін інжынер, другі — рабочы. Нешта там плануюць, мараць аб будучым беларускім запаведніку.

Ніколі не думала, што барацьба за беларускасць дае гэтым людзям аж такое задавальненне. Але гавораць ахвотна і многа толькі пра іншых. Ледзь выціснула я з Сяргея, каб сказаў мне, чаму яны гэта робяць.

„Робім усё, каб утрымалася наша грамадскасць, — сказаў ён. — Мне цікавей, што развіваецца „Полацак“, чым лічыць свае грошы ў банку. Сустрэча ў новай зале была для мяне вялікай радасцю“.

У верасні мінулага года я ўвачавідкі пераканалася, што „Полацак“ мае шанцы стаць сапраўдным цэнтрам беларускага жыцця ў Амерыцы.

Зрэшты, ён ужо ім ёсць.

**Ада Чачуга**
**Фота Анатоля Абрамчыка**



**У фае Беларускага цэнтра.**

**Сяргей Карніловіч, старшыня Кліўлендскага аддзела БАЗА Янка Ханенка, намеснік старшыні БНФ Юрка Хадыка і рэдактар газеты „Беларус“, Янка Запруднік.**

цыйнымі сістэмамі і міжнароднымі абавязаннямі такія правы, якія неабходны дзеля аховы ад дзеянняў, што заахвочваюць да парушэння правоў асобаў і груп і выкарыстоўваюць расавую, этнічную, рэлігійную дыскрымінацыю, прадузятасць, нянавісць, антысемітызм;

**40.2.** — абавязацца прыняць адпаведныя меры дзеля аховы асобаў і груп ад дзеянняў дыскрымінацыі, варожасці і гвалту на расавай, этнічнай, культурнай, моўнай і рэлігійнай падставе, ды дзеля аховы іх маёмасці;
**40.3.** — прыняць эфектыўныя меры, у сузгоднасці са сваімі канстытуцыйнымі сістэмамі, на краёвым, рэгіянальным і мясцовым узроўні, якія падтрымлівалі б зразуменне і талерантнасць, асабліва ў галіне адукацыі, культуры і інфармацыі;
**40.4.** — імкнуцца забяспечыць такую адукацыю, у якой звяртаецца належная ўвага на праблемы расавай прадузятасці і пашанаванне іншых культур і цывілізацый;
**40.5.** — прызнаць права асобам і групам выступаць са скаргамі супроць дыскрымінацыйных дзеянняў, у тым ліку супроць дыскрымінацыйных дзеянняў на расавай падставе;
**40.6.** — разважыць далучэнне, калі яшчэ гэтага не ўчынілі, да міжнародных арганізацый, якія займаюцца праблемамі дыскрымінацыі, і забяспечыць поўную згоднасць з іхнімі абавязаннямі, у тым ліку з абавязаннем дастаўляць акрэсленыя рапарты;

**40.7.** — разважыць акцэптацыю тых міжнародных механізмаў, якія дазваляюць дзяржавам і асобам звяртацца ў міжнародныя арганізацыі ў справах расавай дыскрымінацыі.

# Бежанцы ў Польшчы

Было іх у канцы студзеня 487 чалавек. Пазітыўную апінію Высокага камісара па справах эмігрантаў у Жэневе атрымала 387 асоб, якія зараз чакаюць на вызначэнне краіны пасялення (толькі 2 прац. з іх ліку хоча астацца ў Польшчы). 34 прашэнні адкінуты і тыя асобы могуць яшчэ дабівацца дазволу на пастаяннае пражыванне ў Польшчы. 85 бежанцаў чакае яшчэ адказу з Жэневы.

Ад пачатку года ў Варшаве працуе **Бюро па справах эмігрантаў (вул. Кашыкова 16).** Кожны дзень наведвае яго 20-30 чалавек. Некаторыя толькі асобы просяць палітычнае прыстанішча. Дакументы кваліфікаваных асоб работнікамі Бюро высылаюцца ў Жэневу.

Бежанцаў накіроўваюць у адзін з шасці падваршаўскіх дамоў адпачынку. Апрача кватэры і харчавання, бежанцы атрымоўваюць грошы на гігіенічныя сродкі, білеты, паштовыя маркі і т.п.

У бюро найчасцей трапляюць літоўцы, рускія і балгары. Літоўцы найчасцей просяць дазволіць ім на часовую пабыўку. Зрэдку трапляюцца румыны, якія найчасцей пытаюцца пра работу.

Іншаземцы трапляюць таксама ў варшаўскае **Бюро па справах чужаземцаў (вул. Окжэі 13),** якое прадоўжвае візы (за 264 тысячы злотых) і дае праўныя парады асобам, якія атрымалі дазвол на пастаяннае жыхарства ў Польшчы. Права такое можна атрымаць у польскіх консульствах за мяжой. Трэба толькі даказаць, што ў такой асобы ёсць дзе жыць і грошы на ўтрыманне. Гарантуе гэта, між іншым, запрашэнне з Польшчы, пасведчанае натарыусам.

**(„Gazeta Wyborcza“, Nr 25)**




Дарагое Сэрцайка! Скажы мне чаму так сталася? Было ж усё так добра. Я паступіла на працу на вялікім прадпрыемстве. Узялі мяне на сакратарку дырэктара. Было гэта два гады таму назад, калі я якраз закончыла сярэднюю школу. Дырэктар мне адразу вельмі спадабаўся. Не скажу, і на мяне ён таксама зыркаў, бо быў не стары і вельмі прыстойны. Я ведала, аднак, што ў яго ёсць сям'я, а я ж, як і кожная жанчына, хацела б мець свайго мужчыну і сваю сям'ю. Неяк незаўважальна мы пачалі з дырэктарам праводзіць шмат часу пасля працы. Часамі праседжвалі ў сталоўцы, а часамі былі ў яго нейкія госці і тады ён таксама запрашаў мяне. На стале паяўляўся нейкі каньячок, я рабіла каву — і было нам весела і прыемна. Яго жонка нават не здагадвалася, што год часу мы з дырэктарам круцілі раман. Нават дайшло да таго, што мы пачалі выязджаць у яго летні домік, які знаходзіўся ў 100 кіламетрах за Беластокам. Я была шчаслівая, хаця душу маю даволі часта вярэдзіла думка: ці кіне ён калісьці сваю жонку і сына і ці ажэніцца са мною? Я пакахала яго палымяным юнацкім каханнем і верыла ў тое, што і ён пакахаў мяне. Я працавала на змену з другой сакратаркай. Паколькі гадзін працы было многа, я працавала праз дзень: адзін дзень была я, а другі дзень — тая іншая сакратарка. Яна была таксама маладой незамужняй жанчынай і, можна сказаць, не брыдшай ад мяне.

Здарылася гэта два месяцы таму назад. Я сядзела пры сваім пісьмовым стале, а нада мною стаяў адзін з намеснікаў дырэктара, якраз дзякаваў мне за афармленне нейкай справы. На заканчэнне нахіліўся нада мною і цмокнуў мяне ў губы. У гэты момант у мой пакой увайшоў „мой" дырэктар. Нічога не сказаўшы, застыў на месцы, а пасля павярнуўся і выйшаў без ніводнага слова.

Ад гэтага часу пачаў гаварыць са мною толькі службова. Не было ніякіх прытулянак, ніякіх выпівак, ніякіх паездак. Даваў мне зразумець, што ён зайздросны і не мае найменшага намеру дараваць мне нейкі флірт з іншым мужчынам. Каторагась дня (я ведала, што ён паехаў у свой домік, дзе даскапала можна грэцца пры коміне і зімою, паехаў на нейкі тыдзень, каб адпачыць) вельмі сумна мне было без яго. Хацелася пагаварыць, пабыць разам і я паехала да яго. І што ты думаеш, Сэрцайка, каго я там з ім застала? Вядома, маю сяброўку, маю зменніцу, тую другую сакратарку. У мяне ў душы ўсё замерла. Як можна быць такім здраднікам?! Ён жа так прыгожа гаварыў аб каханні да мяне. Сумная, нікому непатрэбная, вярнулася я дахаты. І цяпер вось думаю, што не варта верыць мужчынам... Праўда, Сэрцайка? **Анеля**

Анеля! Лёгка пачынаць раманс, але канчаць яго цяжка, тым больш, калі канец накідае другі бок. Думаю, што „твой" дырэктар быў сапраўдным джэнтльменам. А джэнтльмен, як вядома, проста так не адыходзіць, джэнтльмен чакае аказіі. Вось і надарылася такая аказія, калі адзін з намеснікаў дырэктара занадта выказаў табе ўдзячнасць. Тая твая сяброўка даўно была яму ў галаве, за цэлы год ужо змучыўся табою. Дырэктары наогул даволі часта змяняюць сабе „сакратарак", але, праўда, нярэдка з-за іх і разводзяцца. „Твой" дырэктар быў, відаць даволі сталы ў пачуццях, але толькі ў адносінах да сваёй роднай жонкі.

Будзе табе гэта добрай навукай на будучыню. **Сэрцайка**




## ПІРАЖКІ З МЯСАМ

На 40 дэкаў мукі трэба ўзяць 40 дэкаў варанага мяса, 10 дэкаў цертай булкі, адно яйка, 25 дэкаў цыбулі, смятану, 2 лыжкі тлушчу, 4 лыжкі таматнага канцэнтрату, 2 зубкі часнаку, яшчэ 20 дэкаў цыбулі, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, перац, 5 дэкаў сцертага жоўтага сыру.

Зваранае мяса змалоць у мясарубцы. Цыбулю абабраць, спаласнуць, дробна пасячы і падсмажыць на 2 лыжках тлушчу. Спалучыць цыбулю з мясам, дадаць яйка, сцертую на тарцы сухую булку і 2-3 лыжкі смятаны. Заправіць соллю і перцам. З прасеянай мукі і кіпячай вады замясіць цеста, як на варэнікі. Тоненька раскатваць яго па кавалку. На раскатаны блін класці ў радок невялікія шарыкі мяса, накрываць другім блінам, прыціскаць яго навокал кожнай порцыі мяса, а пасля выразаць піражкі формачкай ці шклянкай і злепліваць краі. Піражкі зварыць, кладучы іх у пасолены кіпецень. Гатовыя піражкі адцадзіць і пераламыць на падагрэтую талерку або салатніцу, паліць таматным соусам, падрыхтаваным наступным чынам.

20 дэкаў цыбулі абабраць, дробненька нарэзаць, пасаліць, усыпаць на сухую патэльню або ў каструльку і падаграваць, памешваючы. Калі цыбуля пачне жаўцець, дадаць лыжку тлушчу, дробна пасечаны часнок і пятрушку, перамяшаць, дадаць 3/4 шклянкі гарачай вады або адвару з гародніны. Варыць пару мінут, тады перамяшаць з канцэнтратам і 1/3 сцертага сыру, заправіць да смаку соллю, перцам і цукрам.

Палітыя соусам піражкі пасыпаць рэштай сыру і адразу падаваць з салатай з белай капусты ці з пораў. Калі замест пасты хочам выкарыстаць памідорны перацёр, тады не трэба дадаваць вадкасці.

Можна яшчэ залітыя соусам піражкі запячы, уставіўшы іх у гарачую духоўку.

## ТУШАНЫ КРОЛІК

На 1 кг кроліка патрэбны 3 лімоны, 4 лыжкі алею, 1 шклянка булёну, імбір, соль, перац, 3-4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Ачысціць, памыць, падзяліць кроліка на порцыі. Кожную порцыю нацерці соллю, перцам і імбірам. Сок, выціснуты з двух лімонаў, перамяшаць з дзвюма лыжкамі алею. Гэтай мяшанкай паліць ў місцы порцыі кроліка, накрыць мяса і паставіць на дзве гадзіны ў халадзільнік. Пасля мяса падсмажыць на алеі, пераламыць у каструльку, паліць залівай з лімонаў і алею. Тушыць пад накрыўкай на невялікім агні, даліваючы булёну. Трэці лімон вельмі дакладна памыць, нарэзаць скрылёчкамі і ўкінуць у каструльку з мяккім ужо кролікам, тушачы 5 мінут. Дадаць солі і перцу. Гатовую страву вылажыць на талерку, пасыпаць пасечанай зялёнай пятрушкай.

**Гаспадыня**




## КРЫЖ

— Як падумаю, за што мне прыйшлося несці такі крыж, — кажа жанчына, якая выглядае на 60 гадоў, — то мне аж плакаць хочацца.

Выйшла я замуж, нарадзіла трое дзяцей. Наймалодшай дачцэ было тры гады. Жылі мы з сястрой мужа, свекры паўміралі. Мой муж, так як усе, любіў выпіць, але і гаспадар быў з яго добры. Пачалі мы будаваць дом.

Аднойчы, а было гэта ў дзень выплаты, наймалодшая дачка сказала: „Дзед забраў бацьку, пабачыце, ён ніколі ўжо не прыйдзе". Ніхто на гэта не звярнуў увагі. От, дзіцячая плятня і ўсё. Леглі спаць. Ноччу я прачнулася: хтосьці моцна стукаў. Глянула на ложак мужа — а там пуста. Адчыніла дзверы, а там стаяць швагер мужа і нейкі незнаёмы.

Незнаёмы пачаў крычаць, чаму я мужа не пільную. Аказалася, што майго мужа няма ў жывых. Цягнік зарэзаў. Мы ўчатырох пабеглі. Дзесяць кіламетраў прабеглі як бач.

Чыгуначнік не ўпускаў нас у пакой, дзе ляжаў нябожчык. Чакалі да рання.

Калі пахавалі мужа, мой бацька папрасіў, каб я вярнулася дадому і пайшла да працы. Так я і зрабіла. Да працы і з працы ехала на чыгунцы. Думала; „Няхай і мяне цягнік заб'е, як майго мужа. Адна мука, не жыццё..."

Сярэдні сын пайшоў да першага прычашчэння. Гасціны я не рабіла, бо не было за што. Прыйшлі мы з касцёла, з'елі абед і я сказала, што ён свабодны, а мы пойдзем пасвіць кароў.

Прыбегла наймалодшая дачка і крычыць: „Мама! Мама! Тата прыйшоў! Сядзіць там на лаўцы каля дому. Ён мне сказаў, каб я табе прыказала, каб ты не ездзіла чыгункай. Як таты няма, то меншае гора, а калі цябе не стане, то будзе нам вялікае гора. Так сказаў тата".

Дачка зноў пабегла. Хутка вярнулася і сумна сказала: „Няма таты. Зноў пайшоў да дзеда".

З той пары я ўжо не ездзіла чыгункай. Хацелася дзяцей вывесці ў людзі.

З вялікай цяжкасцю пабудавалі мы дом. Бацькі памерлі, і я перайшла туды жыць з дзецьмі. Там застаўся брат. Дом быў халодны. Трэба было яго атынкаваць, а не было за што: мне ледзь-ледзь ад выплаты да выплаты хапала. Старэйшая дачка выйшла замуж і жыве на захадзе, муж вельмі добры. Сын прыйшоў з войска і ажаніўся. Жыў у мяне, але пасля пайшоў у блок. Наймалодшая дачка скончыла школу і працуе ў блізкім горадзе.

Жыла я адна і было б ужо добра, каб не той дом — халодны, як лёд.

Аднойчы сын, на маё гора, насватаў мне разводніка. Ён яго ведаў і думаў, што ён сапраўды добры чалавек, а ён быў апошні прайдзісвет. Так яно і ёсць — ніхто не ведае, што ў каго ўнутры сядзіць! На першы погляд — добры, не п'е. Гаварыў, што яго жонка была няверная, здраджвала з іншымі. Дом мае прыгожы, і панадворак у парадку...

Я пайшла за яго. Спачатку было добра, а пасля паказаў, што ўмее. Не хоча, каб дзеці да мяне прыходзілі, і каб я тым дзецям што-небудзь дала. У мяне ёсць свой кавалак поля, саджу трускалкі. Як дам сыну або дачцэ, то крычыць, што іх разбагачваю. Так мне на кожным кроку дагрызае. Цяпер я разумею, чаму жонка яго кінула. Гэта гора — жыць з такім чалавекам!

Паехала я да дачкі на захад, а зяць просіць, каб засталася. Дзе ж мне заставацца! Пабыла там, пацешылася шчасцем дачкі, і зноў вярнулася да мужа.

Мае сяброўкі, якія жывуць далёка ад роднай вёскі, здзіўляюцца, што я так пастарэла. Не будзеш выглядаць молада, калі цэлае жыццё такое!

**Аўрора**




Дарагі Астроне, што за сон мне прысніўся?! Бачу царкву, а перад ёй мора. Выходзіць з вады мужчына і ідзе ў царкву. Гляджу, а ўжо і мора няма, толькі лужына каля тае царквы. І тады знікае лужына і ўжо ля царквы сухое месца. Я стаю і думаю: гэтакае зрабіць мог толькі Бог. Я засланяю вочы рукамі. пахіляю галаву і гавару: „Божа, я з цябе насмейвалася, я ў цябе не верыла, але цяпер бачу сваімі вачыма, што ты ёсць; прабач мне, я веру ў цябе". І прачнулася.

**Валя**

Валя! Сон твой прадвяшчае, на жаль, нейкую сумную падзею ў тваім жыцці. Аднак, з часам атрасешся.

**Астрон**

# Зорка
## старонка для дзяцей




# Сэрца ў падарунку

**Праваслаўны прыход св. Мудрасці Божай у Беластоку падрыхтаваў наваголнюю ёлку для дзяцей. Арганізатарам урачыстасці быў настаяцель айцец Аляксандр Хіліманюк. Дапамаглі яму прыхаджане, Яраслаў Шырковец і працаўнікі гуртоўні „Сон-поль", якія фундавалі падарункі. Фірма „Сон-поль" не першы ўжо раз стараецца несці дзецям радасць, асабліва тым, што пакрыўджаны лёсам.**

**Найбольш радасці было госцям — дзецям з Беларусі, ахвярам чарнобыльскай трагедыі, якія прыехалі ў Беласток на зімовыя канікулы адпачыць і палячыцца. Цікавыя і смачныя падарункі, атмасфера ў прыхадскім доме, калядкі, якія спявалі равеснікі і іх бацькі, сардэчнасць... На дварэ дзьмуў сцюдзёны вецер, але ў сэрцах было радасна і цёпла.**

Уладзімір Мацвеенка





### ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

60
Жывуць па пяці палічках
Сямёра блізнят-сястрычак.
Як быццам адна сям'я,
У кожнай сваё імя.

61
Вось загадка для Андрэйкі:
Там і шпалы ёсць і рэйкі.
Малаточкі па іх б'юць
І мелодыю вядуць.

62
Я ў космас узнімаюся,
На хвост абапіраюся.

63
Праз палі, масты, лясы
Ляцяць словы-галасы.
Дзякуючы правадам
Кожны тут, а чуюць там.

64
Ён пушысты, быццам вата.
Будзе цёплая ў нас хата,
Бо не ўсуне дзед-мароз
У шчыліны доўгі нос.

Адказ на загадкі знойдзеш ў наступным нумары.

Адказ на загадкі з папярэдняга нумара: 55. Рэчмяшок. 56. Лялька. 57. Магнітафон. 58. Драбіны. 58. Карусель.

# Як барон неўмя судзіў

(латышская казка)

Пайшлі певень і курачка па арэхі. Узляцеў певень на куст, на самую верхавіну і пачаў арэхі рваць. Сарваў адзін — кінуў курачцы. Сарваў другі — таксама ей.

Кінуў трэці — і трапіў курачцы проста ў вока.

Спалохаўся певень, кінуўся быў курачку суцяшаць, а яна нічога не слухае, крычыць на ўсю моц і — бягом дадому.

А насустрач курачцы — барон. Вядома, што барону да ўсяго справа ёсць.

Вось ён спыніў курачку і пытае:

— Ты чаго крычыш?

Курачка яму — так і так: певень кінуў арэх, выцяў па воку.

— Хто кінуў?

— Певень!

— Ну, няхай певень прыйдзе ў маёнтак!

Прыйшоў певень у маёнтак. Барон яму:

— Ты навошта гэта курачцы вока падбіў?

— Хіба гэта я? — кажа певень. — Я ўзляцеў на куст, а куст пахіснуўся, вось арэх і трапіў курачцы ў вока.

— Ну, няхай тады куст прыйдзе ў маёнтак!

Прыйшоў куст у маёнтак. Барон яму:

— Ты навошта пахіснуўся? Певень курачцы праз цябе вока падбіў.

— Хіба я пахіснуўся б! Гэта суседская каза кару грызла...

— Ну, няхай каза прыйдзе ў маёнтак!

Прыйшла каза ў маёнтак. Барон насупіў бровы:

— Ты навошта на ляшчыне кару грызла? Праз цябе певень курачцы вока падбіў!

— Хіба я грызла б! Ды пастух не даў мне траву скубсці!

— Ну, няхай тады пастух прыйдзе ў маёнтак!

Прыйшоў пастух у маёнтак. Барон ужо і кій у руках сціскае:

— Ты чаму не даў казе траву скубсці? Праз цябе певень курачцы вока падбіў!..

— Хіба я не даў бы казе траву скубсці? Гаспадыня абяцала на абед мне аладак прынесці,

(Працяг на стар. 10)

Станіслаў Шушкевіч

### ЗВЯРЫНЫ СТАДЫЁН

На стадыён каля ракі
Вясёлым ранкам з бору
Прыбеглі вёрткія ваўкі —
Адважныя баксёры...
Прыджгалі з пушчы той зубры
І лось наставіў рогі.
Трох першых выбралі ў журы,
Мядзведзь судзёй стаў строгім.
На рынг выходзяць два ваўкі
У баксёрскіх рукавіцах,
Крычаць ад радасці дзікі:
— Глядзіце, будуць біцца!
Па сіле родныя дружкі,
Вага ў іх адной меры,
Адзін зрабіў удар цяжкі,
Другі, як доўбняй перыць.
— Ура, ура, браточкі, брава!
Бі мацней, лупі ямчэй!
Воўчая раве арава,
Не спускае з іх вачэй.
Чуваць удары бах, ды бах!
Два роўныя па сіле...
Знайшлася сіла ў іх зубах —
Па разу і ўкусілі.
Суддзя мядзведзь тут
не стрываў,
За праўду стаў гарою,
І так па шыі моцна даў,
Зваліліся героі.
Пасля схваціў іх за хвасты
І за канат шпурляе.
Адзін самлеў, абняў кусты,
Другі ля пня кульгае.
Ля мікрафона стаў мядзведзь:
— І вось такіх герояў мець
Не раю я нікому.



## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

Піша табе вучаніца 7 класа пачатковай школы ў Зубрах. Хачу табе сказаць, што ты, „Зорачка", мне вельмі падабаешся, а таксама і ўся газета „Ніва".

Я хачу больш пачытаць пра музыкальныя групы, хаця пару сказаў, напрыклад, пра „Граду" ці савецкі гурт „Ласкавы май". Тады „Ніва" была б больш цікавай. Напішыце, што вы аб гэтым думаеце.

**Янна Цыунчык**

**Мілая Ася!**

„Ніва" даволі часта дае публікацыі аб папулярных рок-гуртах і салістах. Газета стараецца быць разнастайная, для ўсіх чытачоў, закранаць розныя цікавыя тэмы. У самой „Зорцы" месца няшмат, але яна нашая — і можам друкаваць пра ўсё, што нас найбольш цікавіць. Можа ты, Янна, ці іншыя вучні, якія цікавяцца сучаснай музыкай, ды і не толькі музыкай, станеце карэспандэнтамі „Зоркі"? А можа ў вашай школе ці вёсцы ёсць свае музыканты? Правядзіце з імі інтэрв'ю, напішыце, ці перад кім выступаюць, што спяваюць. Ці ў іх рэпертуары ёсць беларускія песні? А можа самі пішуць тэксты сваіх песень на роднай мове? Чакаю вашых лістаў!

Вялікае дзякуй усім, хто запрашаў мяне на наваголнюю ёлку, асабліва вучням з Дубяжына. На жаль, не магла я ні даехаць, ні дайсці, хаця гатова была да вас ляцець! Паламалася ў маёй назе маленькая костачка — усё ж можа трапіцца зімой... Калі папраўлюся, абавязкова да вас прыеду!

Чакаю вашых лістаў аб тым, як гулялі вы на „ёлцы", як правялі зімовыя канікулы...

**Ваша „Зорка"**

## Малюнкі школьнікаў



*Малюнак да казкі „Храбрае куранятка". Павел Васілюк, вуч. V класа школы ў Трасцяніцы.*

## Паглыбляй свае веды

### ЗІМОВЫ ВУЛЕЙ

Як зімуюць пчолы ў вулеі? Ці спяць? Ці ім не холадна? Пчолы збіраюцца ў „клуб". Не сядаюць, аднак, абы-як. У вулеі кожную хвіліну — парадак, ці жыхары адпачываюць, ці працуюць. У цэнтры клуба — сядзіць найважнейшая пчала — пчала-матка. Наўкол Яе Сіяцельства збіраюцца маладыя пчолы-работніцы, далей старэйшыя, а звонку клуба — самыя старыя пчолы. Цесна да сябе прытуленыя, пчолкі грэюцца, а валасатыя целы з апошняга пласта клуба захоўваюць каштоўную сярэдзіну ад холада. У цэнтры пастаянная тэмпература — да + 30°С, хаця на дварэ мароз і на ўнутраных сценках вулея іней!

Найхаладней пчолам, якія сядзяць у апошнім пласце. Тут часам тэмпература падае да + 10°С, і пчолы мусяць варушыцца, а тыя, якія найбольш замерзлі і здранцвелі, мяняюцца месцам з больш нагрэтымі.

Зімуючыя пчолы не знаходзяцца ў стане звычайнай спячкі; тэмпература ўнутры клуба завысокая. У цэнтры пчолы маюць невялікі запас мёду. Калі яго ўжо вычарпаюць, пачынаюць карміць адна другую. Пчолы з апошняга пласта бяруць з клетачак сота мёд, які збіралі летам, і не толькі самі кормяцца, але перадаюць страву з хабатка ў хабаток, а наступныя частуюцца і перадаюць харч далей. Калі клетачкі ў адным месцы соту ўжо парожнія, цэлы клуб памаленьку перасоўваецца. Некаторыя пчалаводы забіраюць з вулея ўвесь мёд, падкідаючы пчолам цукар. Дзе ж у іх, людзей, сумленне?

### БЯРОЗКА

...Бясконцая зімовая, цёмная ноч. Вецер б'е ў сцены моцным пругкім крылом, сярдзіта завывае ў падстрэшшах хат, скавыча ў завуголлі. Расхадзілася злосная завіруха.

Мне не спалася. Здавалася, вось-вось густы морак выпхне шыбы, зазвініць шкло і зябкая сцюжа загуляе па хаце.

Бярозка за акном дрыжыць, хіліцца долу ад сібернага ветру, стукае бяссільна галінкамі ў шыбіны, скрабе па шкле. У шуме дрыготкай трывогі заціснула снег у далонях. Уся наскрозь прамерзлая, адубелая, цягнецца яна да людскога жылля.

Як табе прабыць гэты суровы час?

Як цябе пусціць у хату?

**Янка Целушэцкі**

## Легенды нашай зямлі

### ПАДАННЕ ПРА ЗАСНАВАННЕ МЕНСКА

Між Татарскім канцом і Пярэснінскім мастком, ля самага віленскага паштовага шляху, некалі пасяліўся славуты асілак-знахар па празванні Менеск, ці Менскі, і пабудаваў на Свіслачы вялікі каменны млын на сем колаў.

Ніхто самога Менеска не бачыў, тым не менш у навакольных мясцовасцях свіслацкай зямлі чуваць былі самыя фантастычныя расказы пра яго сілу. Кажуць, што ў яго млыне мука малолася не з жыта, а з камення, што ўначы чуліся нейкія дзіўныя крыкі, галёканне, песні, музыка і скокі, што апоўначы ездзіў ён на сваім млыне па селішчах і набіраў дружыну з харобрых, смелых, дужых людзей, з якіх пазней утварыўся цэлы народ і пасяліўся побач з млынам.

Тут і быў заснаваны горад і названы імем волата — Менск.

**(З кнігі А. Гурскага „Бяздоннае багацце")**

## Для самых маленькіх

**Ніна Галіноўская**

### ПАКАТАЎСЯ

**На сабаку сеў каток:**
**— Пакатай мяне, браток.**
**— Ну, трымайся, кот-вусач,**
**Панясу цябе наўскач...**
**Скакнуў Шарык цераз плот.**
**— Дзе мой Васька, дзе мой кот?**
**Ён упаў у крапіву,**
**Лапкай чэша галаву.**

### САРАКАНОЖКА

**У сараканожкі**
**Забалелі ножкі.**
**Вельмі хоча паляжаць.**
**Трэба тапкі хутка зняць.**
**Мама, тата і дзядуля,**
**Брат, сястрычка і бабуля**
**Спрытна завіхаюцца,**
**Тапкі зняць стараюцца.**
**Тапак ажно сорак —**
**Здымеш іх не скора.**
**Пашкадуйце трошку**
**Вы сараканожку.**

## Вершы Віктара Шведа

### ЯК ЖА МЫ СЫШЛІСЯ?

— Дзе ты нарадзіўся, тата?
— У Махнатым.
— А дзе наша мамуся?
— У Урсусе.
— А тады ж дзе я, цікава?
— У Варшаве.
— Як сышліся нашы крокі
У Беластоку?

### КАРАЛЕЎСКІ СОН

Толькі сын расплюшчыў вочы —
Мама просіць: — Годзе спаць!
Можа сон прысніўся ўночы
І мне хочаш расказаць?

— Сон мне сніўся каралеўскі,
Сеў я быццам бы на трон...
Пасля новага адрэзка
Раскажу табе свой сон.

### У ЯКІМ КЛАСЕ НАШ ВАСЯ?

На сход школьны тата
Пайшоў нечакана.
Вярнуўся дахаты
Зусім знерваваны.

— Ты, маці, паслала
У школу да Васі,
На жаль, не сказала,
У якім ён класе.

## Вясёлы куточак

— У гэтым годзе, — кажа Пеця сябру, — я дастаў пад ёлачку электрычную чыгунку, санкі, электронную ігру, але найбольш цешылі мяне лыжы!

— Пэўна накатаўся!...

— Чалавеча! Дзякуючы ім, зімовыя канікулы прадоўжыліся ў мяне на чатыры тыдні!

☆

Маці Петрыка з дакорам:

— Сынок, усе дзеці дапамагаюць дома бацькам, а ты толькі ляжыш на канапе!

— Ты ж заўсёды гаворыш, каб я быў іншы ад усіх!

☆

Пеця шукае чагосьці на падлозе, заглядае пад стол, пад шафу, у куткі... Здзіўленая маці пытае, што ён шукае.

— Шукаю дваццаць злотых!

— Ты іх дзесьці тут згубіў?

— Не, але хацеў бы іх знайсці!

### ЯК БАРОН ПЕЎНЯ СУДЗІЎ

(Працяг са стар. 9)

ды і не прынесла, а я застаўся галодны! Дзе ўжо тут на пусты жывот жывёлу пасвіць!

— Ну, няхай гаспадыня прыйдзе ў маёнтак!

Прыйшла гаспадыня ў маёнтак. Барон кіем стукае:

— Ты чаму пастуху аладак не дала? Праз цябе певень маёй курачцы вока падбіў!

— Ды хіба я яму аладак не дала б? Ды вы самі, пан барон, загадалі, каб парабкам мала есць давалі!

А з барона што патрэбуеш — на яго ўправы няма! Так і скончылася справа ў гэты раз.




**АДГАДАНКА: Падумай, у які бок трэба пакрунуць гузічак, каб падняць угару вядзерца?**


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".




### КРЫХУ ФАНТАСТЫКІ

*Калі б мяне гвалтоўна хто закінуў*
*На зорку, хоць святлейшую ўсіх зор,*
*І пад такім прымусам я пакінуў*
*Сваё сяло, сяброў, свой родны двор,*

*У верасні адтуль я ўпаў бы знічкай*
*І не згарэў, як гэта знічкі ўсе.*

**Кастусь Шавель**

Глядзеў на месяц я і плакаў,
Бо не хацеў, каб хто мяне
Схапіў і ўскінуў небараку
На зорку светлую... О, не!

Каго і што я там не бачыў?
А тут жа двор і куры ў ім
І пастаянна брэх сабачы,
Як паштальён прыносіць „ЛіМ".

Дый што рабіць мне там без бульбы?
Засохну ўраз без малака.
І чым там чысціць буду зубы —
Эмаль сцямнее ад пяска.

Касмічны пыл, пясок касмічны...
Няма травы... Няма вады...
Без туалета непрывычна,
Хаця нашто ён без яды?

Але калі наканавана —
Кідайце ўвысь мяне без слоў.
Было б усё надрукавана —
Злятаць магу хоць сто разоў!

**Янусь Малец**

### МІНІ-КРЫЖАВАНКА

Упоперак: 6) рэльеф мясцовасці са значнымі ваганнямі вышынь, 7) той, хто засяляе свабодныя землі, пасяленец.

**Уніз:** 1) самец авечкі, 2) духавы клавішны музычны інструмент, 3) установа, дзе захоўваюцца старыя дакументы, 4) каштоўны камень, 5) месяц у апошняй квадры, на зыходзе.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.









— Цяпер то я з вас зраблю нацюрморт...

## АНЕКДОТЫ

### ПРА ПАДАРЭЎСКАГА

Пасля канцэрта Падарэўскага нейкі ўсхваляваны любіцель яго таленту, дапхаўшыся да эстрады, крычыць:

— Маэстра, дзякуючы вам я быў у небе!

— Я вельмі рады, — сказаў піяніст, — што вы, аднак, маглі вярнуцца на зямлю.

### ПРА МАРКА ТВЭНА

Калі Марк Твэн быў яшчэ рэдактарам часопіса „Арызона Кікэрс" многа часу займала яму чытанне рукапісаў розных графаманаў. Аднойчы, глянуўшы на поўны папераў кош, уздыхнуў:

— Шкада, што я не быў рэдактарам тады, калі пісалі на каменных плітах. Якую вілу мог бы я збудаваць!

### ПРА МАЛЬЕРА

Мальер не любіў лекараў і насміхаўся з іх пры любой нагодзе. Калісьці сустрэў яго знаёмы лекар і з усмешкай на твары звяртаецца да аўтара „Прытворнахворага":

— Маэстра, я вельмі цешуся, што вас сустракаю. Мне хочацца расказаць вам цікавы выпадак, які здарыўся ў маёй практыцы. Паверце мне: гэта здарылася ў маім жыцці ўпершыню...

Мальер спыняе размоўцу:

— Ужо ведаю, ужо ведаю... Ваш пацыент напэўна выздравеў...

### ТАКІ ВЫПАДАК

— Дык дзе вы, сказалі, працуеце? — перапытаў урач, зрабіўшы ў маёй медыцынскай картцы нейкую паметку.

— На гандлёвай базе.

— Цікава! — ажыўлена глянуў ён на мяне. — На што скардзіцеся, паважаны э-э...

— Мяфодзій Пятровіч, — падказаў я. — Жывот...

— Пакажыце язык, Мяфодзій Пятровіч. Та-а-ак. А што ёсць на вашай базе, калі не сакрэт?

— Які ж тут сакрэт. Усё ёсць.

— Раздзеньцеся да пояса... А імпарт?

— Колькі душа жадае.

— Лажыцеся на тапчан... А скуранкі на футры?

— Ёсць і скуранкі. Усё ёсць.

— Дыхайце глыбей! Эге-е... Хвароба ў вас, Мяфодзій Пятровіч, запушчана, — канстатаваў урач. — І выпадак, скажу вам, не з лепшых. Але вы не хвалюйцеся. Паправім. Такія лекі прапішам, што хваробу як рукой здыме. Праўда, тыя лекі цяжка дастаць... Але паможам. А шапкі андатравыя ў вас бываюць?

— Бываюць, бываюць...

— А дзіцячае адзенне таксама ёсць? — спытала маладая медсястра, якая якраз падрыхтавалася выпісваць рэцэпт.

— У нас усё ёсць, — адказаў я і стаў ля дзвярэй у чаканні рэцэпта.

— Між іншым, — усміхнуўся ўрач, — калі прыйдзеце да мяне, то не стойце ў чарзе. Заходзьце адразу вось праз гэтыя дзверы...

— Дзякуй, дзякуй!.. Я нават не ведаю, як і...

— Дробязь! Дарэчы, можна ваш тэлефончык? Раптам узнікне неабходнасць... пацікавіцца вашым здароўем.

— Можна. Толькі тэлефон у нашай вартоўні сапсаваўся яшчэ на мінулым тыдні. Праўда, абяцаюць адрамантаваць...

— Вы вартаўніком працуеце?! — насупіўся ўрач.

— А то кім жа яшчэ?

— Выпішыце гэтаму, э-э... — задумаўся ўрач.

— Мяфодзію Пятровічу, — падказаў я.

— Гэтаму грамадзяніну валяр'янку.

**Леанід Кацкевіч („Вожык")**

## Весткі аб Пладаносаве

### ПЕРАМЕНА

Пладаносаў раптам стаў апранацца лепш за ўсіх, купіў аўтамабіль замежнай маркі, шыкоўна абсталяваў кватэру і паяўляўся ўсюды толькі ў кампаніі апаламляючых прыгажунь.

— Ты так змяніўся, — здзіўляліся сябры. — У чым справа?

— Я зразумеў, — ахвотна паведамляў ім Пладаносаў, — што як чалавек нічога сабою не прадстаўляю. Ну, і рашыў неяк кампенсаваць духоўную пустку...

### АДНОСІНЫ

— Я прынцыпова супраць рыначных адносін! — рашуча заяўляе Пладаносаў.

Але на жонку гэта ніяк не дзейнічае. Яна далей шумна таргуецца з ім за кожную дробязь.

**Э. Дворкін**

**Прывілеі — галоўны вораг дэмакратыі. Але толькі трус уцякае ад ворага!**




Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa"

ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty
I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1991 r. upływa 20 lutego 1991 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 10.400 zł + 6.500 zł za doręczenie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1800 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej: — marzec — 9.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 23.400 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

III. Кошт падпіскі ў БССР:

— месячная — 2 руб.
— квартальная — 6 руб.
— паўгадавая — 12 руб.
— гадавая — 24 руб.

Zam. 129/91.


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016
© PDF: Kamunikat.org 2016